Цана 15 гр. „Biełaruski Front“ 15 kwietnia 1939 r. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 8 (42) Вільня, 15 красавіка 1939 г. Год IV

## АЛЬБАНІЯ.

Падзеі ідуць скора. Два тыдні таму назад мы пісалі „ўспамін“ па Чэхаславаччыне, цяпер пішам па Альбаніі.

Заняцьце Альбаніі паказвае, у якім *кірунку* пачаўся паход гэтак званай „дынамічнай“ восі — іменна, у кірунку Балканаў, Турцыі, Сырыі, Іраку, Пэрсыі і г. д. Выглядае, што „дынамічная“ вось рэалізуе „вялікі шлях“ на Ўсход у кірунку Індыі і Кітаю, ідучы на спатканьне Японіі. Гэтым яна акружвалаб Саветы і ліквідавалаб уплывы Англіі на Блізкім Усходзе. Італія сканцэнтравала вялікія сілы на востраве Родос (каля Малой Азіі), у Лібіі (паўночная Афрыка) і бязупынна шле вайсковыя аддзелы ў занятую Альбанію. Нямецкі міністар прапаганды, Гэбэльс, быў у Грэцыі, потым у Эгіпце, а ўрэшце ў Турцыі, якбы паказваючы шлях па якому мае каціцца „дынамічная“ вось. Да гэтага трэба прыдаць тое, што эканамічны кіраўнік Нямеччыны, др Шахт апынуўся аж у Індыі... Аднак пры ўсіх гэтых „паходах“ дынамічнай восі на ўсход ня трэба спускаць з вока, што дэцыдуючае змаганьне паміж дзьвяма восямі адбудзецца не на ўсходзе, але на захадзе...

Але вернемся да Альбаніі.

Альбанія — гэта невялікая гарыстая краіна, якая ляжыць на Балканскім паўвостраве, каля Адрыятыцкага мора, гранічыць на поўначы з Югаславіяй, а на поўдні з Грэцыяй. Мае блізу 28 тысяч кв. клм. прастору і крыху болей як 1 мільён насельніцтва. Большасьць насельніцтва — магамэтане, ёсьць нямнога праваслаўных і каталікоў. Дзеля неўраджайнасьці зямлі насельніцтва ў горах займаецца найболей гадоўляй быдла, а ў далінах земляробствам. З капальняных багацьцяў заслужвае на найбольшую ўвагу так патрэбная цяпер усім вялікім дзяржавам нафта. Праўда, там яе невялікая колькасьць, але ўсёжтакі ёсьць. Мова альбанцаў належыць да інда-эўрапэйскай сям'і і займае ў ёй асобнае месца.

З боку нацыянальнага Альбанія да Вялікай вайны была нечым неазначаным і нацыянальнасьць там азначалася рэлігіяй; паводле рэлігійнай прыналежнасьці фармаваліся і палітычныя імкненьні розных групаў насельніцтва. І так, у 1912 годзе, у часе Балканскай вайны, праваслаўнае насельніцтва паўдзённай Альбаніі выступала разам з грэкамі процію магамэтан, якія жывуць у цэнтральнай Альбаніі, альбанцы-каталікі ар'ентаваліся на Італію, самі-ж альбанцы-магамэтане такжа не разумелі незалежніцкай ідэі і ўспаміналі магамэтанскую Турцыю. Дзеля гэтага палітычны сьвет у часе Вэрсальскай канфэрэнцыі глядзеў на Альбанію, як на нешта неазначанае, як на „геаграфічнае паняцьце“, ня маючае свайго нацыянальнага вобліку.

Аднак пазьнейшыя падзеі паказалі, што такое суджэньне было няправільнае. Ад пачатку Вялікай вайны пачынаецца нацыянальнае адраджэньне Альбаніі. Падымаецца, разьвіваецца і ачышчаецца ад розных чужацкіх уплываў альбанская мова, творыцца альбанскае пісьменства, усе альбанцы бяз розьніцы веравызнаньня: і магамэтане, і праваслаўныя, і каталікі лучацца ў вадным імкненьні *да волі і незалежнасьці сваей нацыі.* Спачатку за гэта змагалася толькі невялікая група альбанскай інтэлігенцыі, але потым нацыянальныя ідэі праходзяць у масы і захапляюць іх.

Як ведама, разьвіцьцё нацыянальнай ідэі вымагае часу і працы, аднак трэба прызнаць, што за 25 гадоў Альбанія з „геаграфічнага“ паняцьця сталася *нацыянальным* паняцьцем і ня толькі паняцьцем, але сілаю, якая пробавала даць адпор нават італьянскай вайсковай тэхніцы. Змагаром за нацыянальную Альбанію быў яе кароль, Ахмэт Зогу, які прымушаны быў уцякаць у Грэцыю.

Аднак ягоная праца не асталася дарэмнай. Італія, бяручы пад увагу нацыянальную дасьпеласьць Альбаніі, пасьля заняцьця яе прымушана была ўтварыць *альбанскі* ўрад, які абняў пад сваё кіраўніцтва ўсе справы, апроч вайсковых і заграгічных, якімі будзе кіраваць Італія. Значыць, альбанская нацыя ня зьніштожана, яна толькі страціла сваю незалежнасьць, а раз існуе нацыя, дый яшчэ сьведамая, якая ведае, чаго хоча, можна з цэлай пэўнасьцяй сказаць, што для Альбаніі яшчэ ня ўсё страчана. Пры цяперашніх плыўкіх і зьменных адносінах, калі літаральна за адзін дзень гінуць дзяржавы і пераменьваюцца граніцы, калі ніхто ня ведае, што будзе заўтра і якія палітычныя перамены будуць адбывацца за пару гадоў ня толькі ў Эўропе, але і на ўсім сьвеце, трэба перш за ўсё імкнуцца *да захаваньня нацыі,* а калі нацыя будзе існаваць, яна ня сягоньня дык заўтра, а напэўна здабудзе для сябе ўсе належныя правы.

Мы ў папярэднім нумары „Б. Фр.“ адзначылі, што ад сакавіка месяца (ад падзелу Чэхаславаччыны) сьвет увайшоў у новую эпоху свайго палітычнага існаваньня. *Перад намі вялікая палітычная бура, якая ўжо пачалася ад падзелу Чэхаславаччыны і заняцьця Альбаніі.* Калі гэта бура скончыцца, і чым яна скончыцца — няма ведама. Адно для нас пэўнае, што каліб гэтая бура не абмінула беларускага народу, дык галоўным правілам для ўсіх беларусаў, а такжа галоўным імкненьнем для ўсіх беларускіх дзеячоў павінна быць адно: *абарона і захаваньне беларускай нацыі.* Да гэтага ўсе мы павінны ісьці ня толькі ў часе супакою, але тымболей у часе буры. Абарона беларускага народу і захаваньне ягонага нацыянальнага вобліку павінна быць правілам для ўсіх беларусаў у кожных абставінах жыцьця.

———

## АБ ЗМАГАНЬНІ ДВУХ БЛЁКАЎ.

Сьвет аканчальна падзяліўся на два блёкі, якія рыхтуюцца да дэцыдуючага бою. Калі гэты бой пачнецца — згадаць трудна, адно толькі ясна, што гэты бой **мусіць** некалі настаць. Паміж двама блёкамі набралася столькі спрэчных спраў, што іх можа вырашыць толькі сіла. Ідзе аб вялікую рэч, аб **перадзел сьвету,** прыгэтым дзяржавы, якія ня маюць прастору да жыцьця, дамагаюцца гэтага прастору, а дзяржавы, якія маюць гэты прастор, заявілі, што не ўступяць ані пядзі. Ясна, што ў такіх варунках дэцыдуе меч.

Мэты г. зв. дэмакратычнага блёку ведамы: захаваць status quo, або той парадак і той падзел, які цяпер існуе; мэты г. зв. дынамічнага блёку — перадзяліць сьвет нанова, з тым, каб значная часьць сьвету прыпала сябром гэтага блёку. І так — Японія ідзе да заўладаньня ўсей Азіяй („Азія для азіятаў“), а ў далейшых плянах імкнецца да апанаваньня нават Аўстраліі і тых астравоў, якія ляжаць паміж Азіяй і Аўстраліяй; Італія — да апанаваньня ўсяго ўзьбярэжжа Міжземнага мора, з тым, каб гэтае мора сталася італьянскім морам, а ўсе землі ўвакруг былі ў залежнасьці ад Рыму („Imperium Romanum“), Гішпанія хоча выкінуць англічан з Гібралтару і адабраць ад Францыі ўсё Марокко, каб злучыць у вадно сваю калёнію, Зах. Сахару, якая ляжыць на поўдзень ад Марокка, з калёніяй каля Гібралтару (Цэўта); Нямеччына — да апанаваньня ўсяго ўсходу Эўропы. Нямеччына гатова пагадзіцца з Англіяй на такіх варунках, каб Англія захавала панаваньне на акіянах, а Нямеччыне дала вольную руку ў Эўропе. Аднак Англія на гэта ня ідзе, ведаючы добра, што калі яна аддасьць Эўропу пад нямецкія ўплывы, ёй на брытанскіх астравох месца ня будзе. Значыць, астаецца змаганьне — і то змаганьне страшнае, бо не за нейкія дробныя інтарэсы, але за само існаваньне, як гэта кажуць, змаганьне на жыцьцё і на сьмерць.

Бяручы пад увагу канечнасьць і немінучасьць гэтага змаганьня, некаторыя робяць падрахунак сіл кожнага блёку. Вось-жа пасьля падрахунку аказваецца, што сілы абодвых блёкаў бадай што роўныя.

Возьмем наўперад сілы г. зв. дынамічнага блёку. Да яго належаць: Нямеччына, Італія, Гішпанія, Вугрыя, Манджурыя і Японія. Чалавечыя сілы гэтага блёку выглядаюць так: Нямеччына (бяз Чэхіі) 80 мільёнаў, Італія — 43 мільёны, Гішпанія — 25 мільёнаў, Вугрыя — 10 мільёнаў, Манджурыя — 35 мільёнаў, Японія (без Карэі) 70 мільёнаў. Усяго 263 мільёны.

Да гэтак званага дэмакратычнага або консэрватыўнага блёку належаць: Англія, Францыя, Польшч, а магчыма яшчэ Галяндыя, Злуч. Штаты П. Амэрыкі. Сілы іх прадстаўляюцца гэтак: Англія — 46 мільёнаў, Францыя — 42 мільёны, Польшч — 35 мільёнаў, Злуч. Штаты 130 мільёнаў, Галяндыя — 8 мільёнаў. Разам 261 мільён. Значыць, чалавечым матар'ялам абодва блёкі бадай што роўныя. Астаўляем у старане Саветы (170 мільёнаў), бо выглядае, што яны ў першы бой ня пойдуць, але будуць наглядаць за змаганьнем, каб умяшацца тады, калі абодва праціўнікі ўжо будуць выбівацца з сіл. Няма ніякага сумліву, што Саветы падтрымаюць „дэмакратычны“ блёк.

Гэты падрахунак сіл мае значэньне толькі ў тым выпадку, калі вайна задаўжыцца і будзе цягнуцца, так як і папярэдняя, цэлымі гадамі. Тады ясна, што ўсе жывыя сілы будуць уцягнуты ў вайну, нават тыя, якія цяпер хочуць быць нэўтральнымі. А пры такой зацяг-

лай вайне шансы дынамічнага блёку былі б значна меншымі. Дзеля гэтага „дынамічны“ блёк лічыць на скорую, г. зв. маланкавую вайну, у якой за некалькі тыдняў ужо быўбы ведамы рэзультат. У такім прыпадку вайна пачаласяб раптам, без аб'яўленьня, тысячы аэраплянаў у вадну стройную раніцу наляцелі-б на галоўныя цэнтры свайго ворага, скінулі б там вялізарную масу бомбаў, адначасна рушылі б танкі, бранявікі, артылерыя, пяхота — словам, удар мусіўбы быць раптоўны, неспадзяваны і моцны. На гэтакую „маланкавую“ вайну лічыць „дынамічны“ блёк — і быццам да гэтакай вайны ён і тэхнічна і псыхічна лепш падгатаваны, чым дэмакратычны блёк.

Вось-жа, калі будзем браць такі раптоўны, неспадзяваны напад, падрахунак сіл павінен быць іншы. Падрахунак у гэтым выпадку павінен браць толькі тыя сілы, якія на той раз, на той, скажам, першы ўдар, будуць гатовы да выступленьня. Ня трэба хіба гаварыць, што такія сілы знаходзяцца толькі ў Эўропе. Да гэтакіх сіл належаць: Нямеччына, Італія і Гішпанія — з аднаго боку; Англія, Францыя і Польшч — з другога. Паміж гэтымі сіламі вырашыцца першы бой. Ня бяром тут пад увагу Амэрыкі, Англіі і нават Саветаў, бо пакуль яны змабілізуюць свае сілы, пакуль прывязуць і ўвядуць у бой, можа быць па ўсім... Дзеля гэтага ўсе эўрапэйскія дзяржавы, ня гледзячы на кошты, трымаюць напагатове свае арміі, каб у кожны момант быць гатовымі на ўсякі выпадак...

Дзеля гэтай гатоўнасьці „маланкавая“ вайна можа і ня ўдацца. Перад Вялікай вайною (1914 г.) гэтак сама гаварылі, што вайна пры сучаснай тэхніцы ня можа трываць доўга, бо ёсьць многа ваенных прыладаў, якія нішчаць народ цэлымі тысячамі. Аднак практыка паказала, што на кожную зьнішчажальную прыладу знаходзіцца абаронная — і гэтакім парадкам сіла наступленьня паралiжуецца. Прыкладам такой вайны ёсьць Гішпанія, дзе вайна цягнулася болей як два гады. Гэтае самае можа быць і ў будучай вайне. Значыць, змаганьне паміж двама блёкамі можа трываць доўга, пры масавым вынішчэньні людзей і краёў.

Усе апошнія падзеі (падзел Чэхаславаччыны, заняцьце Клайпэды, Альбаніі, вайна ў Кітаі) ёсьць толькі стратэгічнымі ходамі „дынамічнага“ блёку, каб прыгатавацца да будучай, агульнай баталіі. Некаторыя цьвярдзяць, што змаганьне паміж двама блёкамі ўжо вядзецца ад 1935 году (ад заняцьця Італіяй Абісыніі), што вайна ў Кітаі і Гішпаніі, што заняцьце Клайпэды і Альбаніі — ўсё гэта ёсьць ужо змаганьнем паміж двама блёкамі. І сапраўды, калі будзем браць пад увагу толькі **прыгатаваўчы** мамэнт гэтых падзеяў, дык трэба прызнаць, што змаганьне ўжо адбываецца...

На працягу апошніх гадоў **дынамічны блёк здабыў для сябе некалькі важных стратэгічных пунктаў,** асабліва ў раёне Міжземнага мора.

Да гэтых здабычаў належаць: Гішпанія, Альбанія, Абісынія. З Гішпаніі (куды ўсё яшчэ едуць італьянскія аддзелы) дынамічны блёк можа гразіць Францыі, Гібралтару, а нават пры помачы падводных лодак англійскім марскім шляхом на Атлянтыцкім акіяне. Пасьля магчымага заняцьця Гібралтару можа быць зусім спынены выхад і ўваход у Міжземнае мора англійскай і францускай флёты. Урэшце „закаркаваньне“ Міжземн. мора можа стацца і без заняцьця Гібралтару, з гішп. крэпасьці Цэўта, якая ляжыць на другім баку Гібралтарскай пратокі, дзе Нямеччына і Італія ўжо парупіліся паставіць цяжкую артылерыю, пад якою ня пройдзе ніводзен карабель. Гэтае самае Італія можа зрабіць на паўдзённым выхадзе з Міжземнага (і Чырвонага) мора, каля Абісыніі і Джыбутті, замыкаючы пратоку Баб-Эль-Мэндэб, дзе яшчэ ад абісынскай вайны стаяць італьянскія аддзелы. Дзеля гэтага нямецкая прэса піша, што Міжземнае мора зьяўляецца для Англіі вельмі небясьпечным пунктам, хоць там злучаныя англійская і француская флёты ёсьць удвая сільнейшыя за італьянскую флёту...

Гэтак прадстаўляюцца магчымасьці змаганьня паміж двама блёкамі. Як бачым, магчымасьці для абедзьвух старон вельмі няпэўныя і мусіць дзеля гэтага мы ўсё яшчэ перажываем час **падгатоваў да вайны.** Адно толькі можна сьцьвердзіць у вапошнім часе — гэта здэцыдаваная гатоўнасьць такжа дэмакратычнага блёку да вайны. Пасьля ўсіх спатканьняў і гутарак з Гітлерам і Мусолінім мужы гэтага блёку рашылі: „ну штож, калі ўжо мае быць вайна, дык няхай будзе. Паглядзім, хто выйграе“... Гэтакае становішча можа прывясьці або да спыненьня агрэсыі дынамічнага блёку, або да скарэйшай разьвязкі. Найхутчэй гэта апошняе...

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**„Славянская ідэя“.** Ген. Жэлігоўскі ў „Слове“ (19. IV) закрануў яшчэ раз гэтак званую „славянскую ідэю“, якая ў сучасным палажэньні славянскіх народаў мае вялікае значэньне. „Усе народы, кажа ген. Жэліг., жывуць патолькі, паколькі спаўняюць свае заданьні, ідучы да вялікай мэты, якую ім вызначыў дух гісторыі. Для польскага народу гэтай вялікай мэтай ёсьць славянская ідэя. Германскія народы на ўсім прасторы ад Балтыцкага да Адрыятыцкага мора атакуюць славянскія народы. Задачу маюць аблегчаную, бо славянскія народы паміж сабою або пасвараныя, або падзеленыя, або падняволеныя. Трагэдыяй гісторыі Польшчы так як і ўсіх славянскіх народаў было тое, што яны забыліся аб сваей мінуўшчыне і дзеля гэтага ня мелі перад сабою ідэалаў будучыні... Польшч ёсьць і калыскай, і сэрцам, і рыцарам славяншчыны. Нажаль, праз тысячы гадоў яна не праводзіла славянскай ідэі і гэта было прычынай трагэдыі падзелаў, так як у апошнім часе гэтыя самыя прычыны прывялі Чэхаў да іх трагэдыі.

На пытаньне, што ёсьць найбольшай істотнай прыметай славянскай ідэі, ген. Ж. адказаў: свабода і грамадзкая справядлівасьць. Калі на ўсходзе і захадзе ўздымаюцца горы таталізму і прымусу, ў гэтым часе Польшч павінна высока дзяржаць сьцяг свабоды і справядлівасьці — казаў ген. Ж. — З гэтым сьцягам Польшч пераможа, а калі б нават у няроўным змаганьні мела пасьці, дык зараз-жа падымецца, бо гэтыя ідэалы ёсьць нязношаныя і вечныя...

На пытаньне, якія маюць быць адносіны да іншых народаў, ген. Ж. адказаў: „Тымчасам думайма толькі аб сабе („Myślmy narazie tylko o sobie“). Кожны паляк мусіць зразумець, што ён ёсьць славянінам, а калі гэтае наступіць, дык будзем чуцца, як людзі, якія выйшлі з цёмнага завулка на высокую гару, адкуль расьцілаюцца ў сонечным блеску далёкія гарызонты...

Гэтак піша ген. Ж. На яго пісаньне адказваем, што ён „рамантычны“ чалавек, і хоць мае туманныя пагляды, але ўсёж-такі славянскія. Але спытаемся, колькі такіх славянскіх рамантыкаў ёсьць у Польшчы, апроч ген. Жэлігоўскага? Нам здаецца, што іх можна было-б палічыць на пальцах аднэй рукі. Нават такая „славянафільская“ газэта, як варш. „Polityka“, ў вадным з апошніх нумароў (9.IV) пісала, што палякі магліб увабраць (wchłonąć) з карысьцяй яшчэ вялікі лік беларусаў, чаго не маглі б зрабіць з іншымі народамі, напрыклад, немцамі. Значыць, славянская салідарнасьць „Polityki“ ляжыць у тым каб „wchłonąć“ беларусаў. І больш нічога? Добрая салідарнасьць!

**Шкодная пісаніна.** У вялікодным нумары віл. „Слова“ знаходзім яшчэ „этнаграфічныя“ досьледы беларуса М. Пяцюкевіча. Гэты „дасьледчык“ нашага краю падае вялікодныя г. зв. валачобныя песьні з Віленска-Троцкага, Ашмянскага і Вялейскага паветаў, прыгэтым падае толькі польскія або мешаныя польска-беларускія песьні, а памінаючы беларускія. Да гэтай аднабокасьці М. П. прызнаецца сам у post scriptum да свайго артыкулу, але тлумачыцца труднасьцяй транскрыпцыі (перадачы ў пісьме), і незразумеласьцяй тэксту. Дык пытаньне, нашто падаваць у **палітычную** газэту такую аднабокую этнаграфію? Ці гэтакая мэтода не фальшуе самай этнаграфіі і гэтым прыносіць шкоду ня толькі беларускаму народу, але і навуцы?

**Рэд. Мацкевіч выпушчаны з Бярэзы.** Дня 8. IV. звольнены з Картускай Бярэзы рэд. віл. „Слова“ Ст. Мацкевіч. У „Слове“ (11.IV) зьмешчана ягоная заява, што да 24 верасьня сёлета ён адказваецца ад усякай публіцыстычнай, газэтнай і палітычнай дзейнасьці і будзе ў Вільні толькі некалькі дзён, пакуль не ўрэгулюе фінансавых справаў „Слова“ і не сарганізуе рэдакцыі, якая будзе весьці газэту далей.

Цікава ў гэтай заяве дата назначанай палітычнай бязьдзейнасьці Ст. Мацкевіча: 24 верасьня. Чаму не раней або пазьней? Ці гэта мае быць роўна поўгода ад дня высылкі яго ў Бярэзу?

**Самагубства В. Слаўка.** Дня 2. IV. кончыў самагубствам ведамы пілсудчык, польскі дзяяч і патрыёт, аўтар абавязуючай цяпер у Польшчы Канстытуцыі і выбарчай ардынацыі ў парлямэнт, быўшы некалькі разоў прэм'ерам, Валеры Славэк. Частка польскай прэсы піша, што гэта быў чалавек бяз шырэйшай палітычнай думкі, без самастойнай глыбейшай ідэолёгіі і дзейнасьці, але быў добрым выканаўцам волі Вялікага Маршала. Калі яго ня стала, Славэк апынуўся ў апазыцыі да цяперашняга рэжыму, быў нават выбраны на маршалка сойму проціў волі дэцыдуючых дзейнікаў, але сойм быў скора распушчаны і Славэк не прайшоў у новы парлямэнт — і то на падставе собскай ардынацыі! Гэта заламала Слаўка ня толькі палітычна, але і псыхічна—і быццам на грунце гэтага залому ён скончыў самагубствам, якраз у трывожныя дні, якія перажывала тады Польшч. Самагубства Слаўка зрабіла на ўсё польскае грамадзянства вялікае ўражаньне.

## НУТРАНАЯ ПАЗЫКА Ў ПОЛЬШЧЫ.

У сойме і сэнаце прыняты закон аб вялікай нутраной пазыцы ў суме 2 мільярдаў злотаў. З гэтай пазыкі 800 тысяч празначаны на інвэстыцыі (будова чыгунак, фабрык, дарог і г. д.) а 1 мільён 200 тысяч на ўваружэньне. Выданы 5-ці прац. аблігацыі на гэтыя мэты па 100 зл., і 3-ох прац. „боны“ па 20 зл., каб даць магчымасьць прыняць удзел у пазыцы як найшырэйшым масам насельніцтва. Падпісваньне на гэту пазыку пачалося 5. IV. і будзе цягнуцца да 15. V. сёлета. Адна траціна мае быць заплачана адразу, а рэшта найдалей да 5 ліпня сёлета. За скорым і хуткім правядзеньнем гэтай пазыкі вядуць акцыю адумысловыя камітэты і арганізацыі.

# Праца інтэлігенцыі на вёсцы.

У папярэднім нумары „Б. Фр.“ мы разгледзелі асновы, на якіх павінны апірацца ўзаемаадносіны між гарадзкой і вясковай інтэлігенцыяй. Мы падчыркнулі, што між гэтымі адламамі інтэлігенцыі павінна існаваць роўнасьць і што вясковая інтэлігенцыя ня можа ўхіляцца ад адказнасьці за кожнаразовы стан беларускага руху. Цяпер спынімся над магчымасьцямі і заданьнямі працы інтэлігенцыі на вёсцы.

Беларусы ня маюць пяпер ніякіх арганізацыяў, ў якіх вясковая інтэлігенцыя маглаб знайсьці найлепшыя формы да сваей працы. Усе нашы культурныя ўстановы зьліквідаваны. Ясна, што нястача арганізацыяў зьяўляецца вялікай замінай у працы на вёсцы і балюча адчуваецца.

Аднак ня можна пагадзіцца з тым, што калі нашы культурныя ўстановы перасталі існаваць, дык прапала ўсякая магчымасьць пляновае і сыстэматычнае працы для інтэлігенцыі, асабліва на вёсцы. Трэба ўмець прытарнавацца да ўсялякіх варункаў, а не складаць бяспомачна рук. У гэтым уменьні прытарнавацца да ўсякіх варункаў якраз і будзе выяўляцца жывучасьць інтэлігенцыі. Няправільна думаюць тыя вясковыя інтэлігенты, каторыя ўсю бяду звальваюць на адсутнасьць арганізацыйных формаў і гэтым да пэўнай ступені стараюцца апраўдаць сваю бяздзейнасьць, чакаючы лепшых варункаў. Сапраўды сьведамы вясковы інтэлігент, разумеючы сваю адказнасьць перад народам, ня можа абмяжавацца і ў найгоршых варунках да ролі пасыўнага наглядчыка. Ён заўсёды патрапіць знайсьці формы да праяўленьня сваей энэргіі і ініцыятывы, прычым формы гэтыя будуць цалком легальныя.

Спосаб, у які вясковая інтэлігенцыя можа праявіць і цяпер сваю ініцыятыву залежыць перш-на-перш ад тых заданьняў, якія гэта інтэлігенцыя сабе паставіць. Дык што, галоўна, павінна асабліва інтарасаваць нашу вясковую інтэлігенцыю ў сучасны мамэнт?

Сумуючы ўсе думкі, выказаныя на бачынах беларускай прэсы на гэту тэму, трэба бяспрэчна сьцьвердзіць, што ўся наша прэса згодна прызнае „баёвымі“ заданьнямі інтэлігенцыі на вёсцы: 1) **паглыбленьне нацыянальнае сьведамасьці беларускае вясковае масы** і 2) **самаасьвета.** Хоць аб гэтых палючых заданьнях пісалася вельмі шмат, аднак трэба аб'ектыўна прызнаць, што праца ў гэтых двух кірунках на вёсцы пастаўлена нездаваляюча. Няма тут неабходнай пляновасьці. А тымчасам справа ёсьць простай. Калі йдзе аб першае заданьне дык кожны вясковы інтэлігент павінен паставіць сабе за мэту — асьведаміць нацыянальна ўсіх сваіх вяскоўцаў. Вёска, у якой знойдзецца хоць адзін сьведамы беларускі інтэлігент, павінна ператварыцца ў сьвядомую беларускую вёску. Ніхто там не павінен хістацца ў азначэньні свае нацыянальнасьці і выбіраць між беларусам і „тутэйшым“, або азначаць сваю нацыянальнасьць паводле рэлігійнае прыналежнасьці. Ці гэта ў нас на вёсцы належна праводзілася? Напэўна не, бо кожны беларускі інтэлігент дасканальна ведае, што лёгка можна спаткаць вёскі, маючыя колькі сьведамых інтэлігентаў, а далёкія ад нацыянальнай сьведамасьці. Адказнасьць за гэткі стан падае бязумоўна на тых вясковых інтэлігентаў, каторыя жывуць у гэтых вёсках. Яны, асьведаміўшыся самі, чакаюць, пакуль і другія падымуцца да іх, але самі ў гэтым кірунку або нічога ня робяць, або надта мала і не сыстэматычна. Гэта вельмі ненармальнае зьявішча, а тыя інтэлігенты на вёсцы, каторыя сядзяць злажыўшы рукі, вельмі дрэнна служаць свайму народу. А тымчасам колькі аказыяў здараецца вытлумачыць неасьведамлёнаму суседу, хто ён такі. Трудна гава-

# На беларускім грунце

### АБ ПРАЦЫ БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯХ.

У папярэднім н-ры „Б. Фронту„ мы затрымаліся над тэзамі „Хр. Думкі“, якая раіць беларусам пад пэўнымі варункамі ўваходзіць у польскія арганізацыі „Стронніцтва Людовага“ і ППС і там працаваць. Паміж гэтымі вымаганымі варункамі „Хр. Думка“ ставіць на першым месцы **прызнаньне** беларускага народу і ягоных правоў гэнымі арганізацыямі. Мы аднясьліся да гэтых тэзаў і да тактыкі „Хр. Д.“ нэгатыўна, а гэта дзеля таго, што ўваход і праца беларусаў у польскіх арганізацыях для беларусаў шкодная, бо спрыяе палянізацыі іх і разьвіцьцю янычарства. Урэшце мы паказвалі на той факт, што тыя арганізацыі беларусаў не прызнаюць і на супрацоўніцтва, як роўныя з роўнымі ня ідуць. Такое становішча пацьверджаецца між іншым дакумэнтам, які ніжэй друкуем. Гэта ёсьць адкрытае пісьмо беларускай культурна-прасьв. арганізацыі да кіраўніцтва Т-ва Рабочага Унівэрсытэту, або гэтак званага ТУР-у ў Беластоку. (ТУР знаходзіцца пад уплывам ППС).

**Да Сябраў, Сымпатыкаў і Кіраўніцтва Таварыства Рабочага Унівэрсытэту ў Беластоку.**

Адкрытае пісьмо Аб'еднаньня Працаўнікоў Беларускага Тэатру „Полымя“ — каапэр. з адказн. паямі ў Беластоку.

У першай палове месяца чэрвеня м. г. зьвярнуліся Вы да нашае беларускае каапэратыўна-гаспадарчае пляцоўкі з прапазыцыяй супольнага наладжаньня ў дзень 12 чэрвеня 1938 г. „Дня Каапэрацыі“.

Ад пачатку, калі заіснавала ў Беласточчыне арганізацыя ТУР, мясцовая беларуская грамадзкасьць у сілу меркаваньняў пачуцьця славянскае ўзаемнасьці з аднаго боку і салідарнасьці працоўных бяз розніцы веры і нацыянальнасьці з другога — са шчырым задаваленьнем вітала ўзрост і пашырэньне ТУР-у, як у Беластоку, так і ў Беласточчыне наагул.

Беларуская грамадзкасьць хацела бачыць у Вас маладых узнавіцеляў слаўнае традыцыі лепшых Беларусаў і Палякоў вашага Краю, змагаючыхся ў мінуўшчыне за братэрства народаў пад клічам: „За нашу і вашу вольнасьць“.

Сяньня, калі бег жыцьця працоўных цэлага сьвету ўваскрасіў слова „Вольнасьць“, з гэтым клічам на вуснах у шэрагі ТУР-у сталі і Беларусы — шляхотныя сыны нашага народу, сталі ў імя нашай і вашай вольнасьці, каб несьці ў народ справу асьветы, каб пашыраць сярод працоўных ідэю салідарнасьці...

Прайшоў год—другі, ТУР спаткаўся з беларускімі масамі, з іх імкненьнямі, з іх тугою за лепшым заўтра і што? Гэтае толькі, што незалежныя прычыны прымушаюць ТУР крок за крокам адступаць ад прынцыпу **„за нашу і вашу вольнасьць“,** у ТУР-ы крывым вокам паглядаюць на праявы сярод Тураўцаў усякае сымпатыі і спачуцьця для долі нашага сярмяжнага народу, а ўрэшце ТУР, мусіць дзеля насьмешкі, прапануе нам дый сам адмаўляецца сьвяткаваць супольна „Дзень Каапэрацыі“.

Усё гэта сьведчыць, што ТУР што-раз болей ангажуецца ў полёнізацыйна-шавіністычную работу, што ТУР у Беластоку апынуўся ў мурох шавіністычнае сыстэмы.

А калі гэта так, дык вы, Тураўцы, ня лічыце на сымпатыю і падтрыманьне Беларусаў.

Калі так, дык ведайце, што кожная спроба паняверкі духа поступу, гэтага мотару беларускага натуральнага руху, адкульбы яна ня ішла, ці справа ці злева, усё роўна, спаткае з боку беларускае грамадзкасьці рашучы адпор.

Нашая блізасьць да беларускае грамадзкасьці і знаньне яе настрояў і занепакаеньня пералічанымі фактамі з дзейнасьці ТУР-у ставіць нам за абавязак падаць да Вашага ведама аб гэтых настроях.

*(пячаць і подпіс)*

Гэты дакумант сьведчыць аб „ахвоце“ ТУР-у да супрацоўніцтва з беларусамі. З пісьма выяўляецца вялікае расчараваньне беластоцкіх беларусаў да ТУР-у і кіданых ім клічаў. Гэтае расчараваньне сьведчыць з аднаго боку аб маладым і шчырым рамантызьме некаторых беластоцкіх беларусаў, а з другога боку — аб рэалістычным уняцьці справы кіраўнікамі ТУР-у, якія хіба нават чулі аб правіле, што словы часам служаць на тое, каб прыкрыць імі сапраўдныя думкі і намеры...

### ЦІКАВЫЯ ДУМКІ.

Ад нашага карэспандэнта з вёскі мы атрымалі ўвагі, якія сьведчаць аб настроях і думках нашай вясковай інтэлігенцыі. Падаём тут некаторыя думкі.

„Трудна мне пісаць граматычна ў сваей роднай мове, бо мяне ў школе яе ня вучылі, але пішу, бо яна ёсьць найпанятнейшая і наймілейшая. Яна мілая, бо гэтак гаварылі нашы бацькі. Я не магу паняць, чаму гэта так ёсьць. Мы жывём у Эўропе, каторая завецца культурнай — і мы відзім, што нават тыя нацыі, якія ўчора былі пазбаўлены роднай мовы, сягоньня дайшоўшы да ўлады, стараюцца задушыць слабейшую ад сябе нацыю. Гэтак відзім па ўсім сьвеце, каждая сільнейшая нацыя хоча даказаць, што толькі яе права і што ўсе нацыі паходзяць ад яе. Мімаволі ставіцца пытаньне, якая розьніца ёсьць паміж жыцьцём культурных людзей і жыцьцём зьвярат, каторыя бьюць адно другое рагамі і грызуць зубамі? Да 1918 году мы былі пад Расеяй і там усё гаварылі, што мы рускія, пасьля некаторыя польскія партыі нам даказвалі, што мы палякі, а каліб мы папалі пад Літву, якая дамагалася Вільні і Віленшчыны, то я думаю, што Літва стараласяб нас зрабіць літвінамі. Словам, выходзіць, што круцяць нашу галаву то ўправа, то ўлева, а мы павінны дзяржаць яе проста, па-беларуску. Калі чытаем кнігі або газэты ў чужой мове, спатыкаюцца незразумелыя словы, паказваем іх іншым — і ніхто не разумее, што яны значаць, а калі чытаем што-небудзь у роднай мове, ўсё зразумела, нікога ня трэба прасіць, каб паясьніў. Дзеля гэтага нам трэба стаяць за сваё роднае. Тады і правы будзе мець беларуская нацыя і будуць нам адкрыты дарогі да навукі і культуры“.

Якіяж простыя, і разам якія глыбокія жыцьцёвыя думкі!

### КАНФІСКАТА „БЕЛ. ФРОНТУ“.

Папярэдні (7-мы) нумар „Б.Фр.“ быў сканфіскаваны па загаду Віл. Гарадз. Старасты. Пасьля канфіскаты быў выданы другі наклад. Канфіската наступіла за: 1) канчатковыя словы артыкулу: „Нацыянальная палітыка на Палесьсі“; 2) выснавы пасьля артыкулу: „Інтэрпэляцыя кс. Любэльскага“ і 3) за апошні сказ артыкулу „Паляк Морозовъ“. У гэтых мясцох Стараства дагледзіла тэндэнцыйнае і нязгоднае з праўдай падаваньне вестак, што ў Польшчы ўціскаюцца нац. меншасьці. Канфіската наступіла на падставе 170 арт. К. К. (пашыраньне фальшывых вестак).

### З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ

**„Шлях Моладзі“** (5. IV) закранае справу, якой у сяньняшнія часы мала прысьвячаецца ўвагі, іменна справу бел. эканомікі. Каліж будзем прыглядацца да мінуўшчыны, кажа „Ш. М“, дык і ў мінуўшчыне пабачым, як дзіўна лёгка людзі хадзілі ў нас каля спраў гаспадарчых і абміналі іх. Украінцы, напрыклад, разбудавалі сваё гаспадарчае жыцьцё і ў эканоміцы маюць падтрыманьне ў сваім нацыянальным руху, а беларусы, гэтакія скорыя да палітыкі, падобнае эканамічнае падставы ня маюць. „У нас, беларусаў, кажа „Ш. М.“, бяспрэчна зашмат славянскасьці — філязофства, фантазіі, рамантызму, а замала практычнасьці, гэтае характэрнае рыскі немцаў“. Дык трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на спажывецкія і вытворчыя каапэратывы, трэба закладаць свае малачарні, крамы і інш. гаспадарчыя ўстановы, бо ніхто нам дабрабыту ня прынясе, калі мы самі яго ня створым.

Справядлівыя словы!

Нядаўна выйшла чародная кніжка літаратурна-навуковага часапісу **„Калосьсе“.** Зьмест кніжкі даволі багаты і разнаякі, аднак да некаторых артыкулаў маем засьцярогі. У першую чаргу да артыкулу Ад. Станкевіча „З літуанізмаў у беларускай мове“. Аўтар, ня маючы філёлёгічнага падгатаваньня, нават чыста беларускія словы ўважае за пазыку з літоўскай мовы, як напр. „зьмяркаць“, „зьмяркацца“ Як ведама, словы „змяркацца“, „змурок“ ёсьць ня толькі ў бел. мове, але і ў польскай (zmierzch) і расейскай (сумерки), значыць мае прымету агульна славянскага слова. І такіх прыкладаў многа. Да гэтай справы мы яшчэ вернемся.

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— Як мы ўжо паведамлялі ў папярэднім нумары „Б. Фронту“, вывезены ў Бярэзу два беларускія сялянскія дзеячы: Пятровіч з в. Быкі, Палачанскае воласьці і А. Гарошка з в. Люйсічы, Маладэч. вол. Падаючы гэтую вестку, „Кур. Віл.“ дадае, што абодва гэтыя дзеячы праводзілі беларускую нацыянальную акцыю ў часе нядаўных выбараў у грамадзкія рады.

— Ведамы беларускі паэт Міхась Машара прыгатаваў да друку новы зборнік сваіх вершаў.

— 21 сакавіка сёлета Віл. Апэляцыйны Суд разглядаў справу „Бел. Крыніцы“ і яе рэдактара А. Дасюкевіча. Як ведама, Віл. Акружны Суд засудзіў Дасюкевіча на 6 месяцаў вастрогу з устрыманьнем кары на 2 гады, а выдавецтва „Бел. Крыніцы“ спыніў. Апэляцыйны Суд прысуд першае інстанцыі пацьвярдзіў.

— У апошнім часе разыйшліся па Вільні чуткі аб ліквідацыі віл. беларускай гімназіі. Ліквідацыя мае наступіць ад восені. Добра былоб, каб кампэтэнтныя дзейнікі гэту справу выясьнілі.

### З САВЕЦКАЕ БЕЛАРУСІ.

**Памёр Адвард Самуйлёнак.** 12. II. 1939 г. пасьля доўгай і цяжкой хваробы памёр ад сухотаў малады і вельмі талентавіты пісьменьнік Савецкай Беларусі Адвард Людвікавіч Самуйлёнак.

Радзіўся ён у 1907 г. 23 ліпня ў Пецярбурзе, ў сям'і чорнарабочага. Бацька яго паходзіў з сялянскай сям'і з Дрысенскага раёну, які граніўыцца з Браслаўскім і Дзісенскім паветамі; тут падросшы прабываў і вучыўся пісьменьнік. Шырэйшую літаратурную працу пачаў А. С. у рэдакцыі часапісу

(Далей на адвароце).

рыць тут аб нейкай мэтодыцы ў працы, — яна сама выясьніцца, калі інтэлігент сапраўды будзе мець ахвоту да працы. А хіба ня трэба тлумачыць, якое калясальнае значэньне меўбы факт, каліб уся беларуская маса ўсюды сьведама прызнавалася да беларускасьці.

Толькі пры асягненьні гэтай мэты былаб магчымай шырокая беларуская праца пад кожным паглядам. Дзеля зьдзейсьненьня гэтай мэты наша вясковая інтэлігенцыя павінна перайсьці ад інэртнасьці да офэнзывы. І можна з пэўнасьцю сказаць, што калі вясковая інтэлігенцыя зразумее сваю адказнасьць з гэтага гледзішча і прыступіць да працы — пазытыўныя рэзультаты не дадуць на сябе доўга чакаць. Праца гэта, ясна-ж, ёсьць цалком легальная, бо польскія законы забесьпячаюць ня толькі існаваньне нацыянальных меншасьцяў у дзяржаве, але і іхняе разьвіцьцё. Трэба толькі гэтымі законамі карыстацца.

Другой важнай задачай на вёсцы ёсьць праводжаньне самаасьветы ў роднай мове. Мала прызнацца да беларускасьці — трэба імкнуцца да таго, каб быць грамадзянінам асьвечаным. Беларусы дамагаліся і дамагаюцца адчыненьня школаў у беларускай мове. Гэта дамаганьне ня споўнена. Трэба затым прыступіць да асьветы шляхам самаадукацыі. Ясна, самаасьвета павінна быць у беларускай мове, бо толькі яна забесьпячае найхутчэйшае і найлепшае прысваеньне сабе веды масай. Вучучыся ў чужой мове, наш народ заўсёды будзе ззаду другіх, бо ад веды яго будзе дзяліць заўсёды неабходнасьць апанаваньня чужой мовы. Таму калі асьвета ў роднай мове дае веду адразу, асьвета ў чужой прымушае спачатку добра навучыцца чужой мовы, каб магчы здабыць навуку. Шырэйшыя беларускія масы, прайшоўшыя польскую школу, не апанавалі польскага языка, а выйшаўшы із школы, забыліся яго, а разам і ўсей веды, вынесенай у гэтай мове. Гэтым тлумачыцца г. зв. „паваротны анальфабэтызм“ сярод беларускага насельніцтва, аб якім піша нават польская прэса. З гэткім станам рэчаў наша інтэлігенцыя пагадзіцца ня можа. Таму і на фронце самаасьветы трэба ад бескарыснага чаканьня, бязьдзейнасьці, перайсьці да шырэйшай акцыі. І тут пры добрай волі вясковая інтэлігенцыя можа нават у сучасных варунках зрабіць вельмі шмат. Калі-б, дапусьцім, вясковыя інтэлігенты навучылі чытаць і пісаць па-беларуску сваіх дзяцей, радню, дык ужо гэтым клаліб моцныя фундамэнты для беларускай самаасьветы. А трэба сказаць, што ня ўсюды гэта праводзіцца і шмат можна спаткаць нават у горадзе беларускіх інтэлігентаў, дзеці якіх ня ўмеюць чытаць і пісаць па-беларуску.

Побач з гэтым, вясковая інтэлігенцыя павінна ўсьцяж працаваць і над собскай самаасьветай. Кожны беларускі інтэлігент павінен імкнуцца да паглыбленьня сваей веды аб сваім народзе. Гэта дасьць яму духовае аружжа, з помаччу якога ён патрапіць адбіць атакі непрыяцеляў беларускасьці.

Мы падчыркнулі пакуль што гэтыя два заданьні беларускай вясковай інтэлігенцыі. Лічым іх найважнейшымі і заўсёды актуальнымі. Дзеля гэтага кожны інтэлігент не павінен ані на хвіліну аб іх забывацца, бо яны зьяўляюцца фундамэнтам кожнай беларускай працы, якая-б мела далейшыя мэты. З вышэйшага відаць, што для правядзеньня іх ня трэба спэцыяльных арганізацыяў.

Пэўна-ж, лепш былоб, каб арганізацыі былі і каб маглі працаваць, але і пры іх атсутнасьці сытуацыя ня ёсьць безнадзейнай, бо існуючыя ў Польшчы законы даюць магчымасьці легальнай працы над зьдзейсьненьнем менаваных мэтаў. Патрэба толькі вялікшай ініцыятывы і энэргіі з боку інтэлігенцыі.

**М. Ш.**

**Грамадзяне! Прыпамінаем і просім прысладзь складку за газэту! Некаторыя яшчэ дагэтуль ня споўнілі свайго грамадзкага абавязку!**

# На міжнародным грунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

У першай палавіне красавіка падзеі ішлі ў кірунку выясьненьня палітычнага палажэньня і ў кірунку мабілізацыі сіл. Тыя дзяржавы, якія яшчэ палітычна, ці лепш кажучы, **ар'ентацыйна** не самаазначыліся, зрабілі гэта ў вапошнім часе; тыя, якія яшчэ не змабілізавалі сваіх рэзэрваў, зрабілі гэта ў першай палавіне красавіка. Цяпер ужо ўся Эўропа, ад Балканаў да Англіі, ад Гішпаніі да Саветаў, стаіць уваружаная і гатовая на ўсе магчымасьці. Некаторыя дзяржавы правялі мабілізацыю яўна, а іншыя тайна, маскуючы мабілізацыю паклíканьнем рэзэрвістаў „на вучэньне". Мабілізацыю правяла нават Галяндыя, якая ў Вялікай вайне была нэўтральнай.

Падзеі ў першай палавіне красавіка адбываліся ў такім парадку: пасьля заявы Чэмбэрлена (31.III) аб загварантаваньні граніц Польшчы і пасьля дэкляряцыі Польшчы, што яна выступіць у абароне Англіі, калі б гэта апошняя была кім небудзь заатакавана, Гітлер сказаў (1.IV) сваю чародную прамову, у якой адзначыў, што нямецкі народ не на тое створаны Богам, каб стасавацца да правоў, карысных Англіі і Францыі, але каб тварыць свае правы. Калі Англія і Францыя хочуць, каб з імі абгаварваць усе справы, то і Нямеччына мае права вымагаць, каб гэтыя дзяржавы абгаварвалі ўсе справы з Нямеччынай. Той, хто хоча выцягваць для гэтых вялікіх дзяржаў каштаны з агню, можа папячы сабе рукі... Пасьля гэтага прыйшла прамова Мусоліняга, у каторай ён яшчэ раз адзначыў, што калі б стварылася коаліцыя з мэтай акружэньня восі Рым—Бэрлін, дык гэтая вось перайшлаб у атаку на ўсіх пунктах. Потым наступіла афіцыяльнае паведамленьне аб далучэньні Гішпаніі да антыкамуністычнага саюзу, што было вялікім ударам па Англіі і яе інтарэсам у зах. часьці Міжземнага мора; потым нарада нямецкага і італьянскага штабаў у Інсбруку, на гэту нараду быў выкліканы і прадстаўнік вугорскага ген. штабу; потым прыйшла акупацыя Альбаніі Італіяй (8—9.IV), што было ізноў вялікім ударам па англійскім інтарэсам, але ўжо ва ўсходняй часьці Міжземн. мора; потым наступіў зварот Грэцыі і Турцыі да Англіі, каб гварантавала іх незалежнасьць; потым дэкляряцыя турэцкага ўраду аб дазволе на праход праз Дарданелы і Босфар англійскіх караблёў у Чорнае мора, відаць, дзеля сувязі з Румыніяй і Саветамі; потым спробы пракапаць польскую палітыку, каб не працівілася далучэньню Саветаў да англа-франка-польскага саюзу і будучай іх вайсковай помачы ў вайне з Нямеччынай; уканцы (13.IV) прамова Чэмбэрлена, у якой ён адзначыў, што заняцьце Італіяй Альбаніі ёсьць нарушэньнем англа-італ. паразумленьня з 16.IV.38, але паміма ўсяго Англія гэтага паразумленьня зрываць ня будзе; што Адрыятыцкае мора ёсьць часткай Міжземнага мора і належыць да абшару, абнятага паразумленьнем; што Англія супраціўляецца рашуча ўсякай далейшай пэнэтрацыі Італіі на Балканах і дзеля гэтага **гварантуе граніцы Грэцыі і Румыніі.**

Гэтакі білянс падзеяў з палавіны красавіка. У гэтых падзеях кідаецца ў вочы ўжо не мабілізацыя сіл, але **займаньне пазыцыяў** двама праціўнікамі. Гэтае займаньне пазыцыяў найболей грознае цяпер у басэйне Міжземнага мора, як ва ўсходніх яго частках (Балканы, Малая Азія, Эгіпет), так і ў заходніх (Гішпанія, Гібралтар, Цэўта). Найболей важным выснавам у гэтым білянсе ёсьць тое, што Англія закончыла акружваньне „дынамічнай" восі ад усходу і праз далучэньне Грэцыі, Румыніі і Турцыі да дэмакратычнага блёку загарадзіла дарогу Нямеччыне і Італіі на Багдад і Індыю. Апроч гэтага чалавечы матар'ял „дэмакратычнага" блёку значна павялічыўся (Грэцыя — 7 мільёнаў, Румынія — 19 мільёнаў, Турцыя — 15 мільёнаў). Апроч гэтага ідуць стараньні прыцягнуць да дэмакратычнага блёку Пэрсіі і Саветаў, з тым, каб яны выступілі актыўна і зараз-жа, як толькі пачнецца вайна. Як бачым— і мабілізацыя сіл і займаньне пазыцыяў даходзіць да канца.

## ЗАЙМАНЬНЕ ПАЗЫЦЫЯЎ КАЛЯ МІЖЗЕМНАГА МОРА.

У вапошнім тыдні Міжземнае мора зьвярнула на сябе вялікую ўвагу. Як мы ўспомнілі вышэй, там цяпер адбываецца займаньне пазыцыяў двама праціўнікамі. Ад заняцьця выгаднейшых стратэгічных пазыцыяў залежыць перамога, дзеля гэтага кожны праціўнік стараецца заняць і ўмацаваць свае пазыцыі. Дынамічны блёк заняў цэлую Гішпанію, адкуль можа гразіць Францыі, Англіі (Гібралтару) і англійскім гандлёвым і стратэгічным шляхом на Атлянтыцкім акіяне. Апроч гэтага гэтыж блёк мае крэпасьць Цэўту (насупроць Гібралтару). Італія ўкрапіла востраў Пантэлярыю, што ляжыць паміж Сыцыліяй і Тунісам, у найвузейшым месцы Міжземнага мора. Гэтаяж Італія заняла Альбанію, якая мае вялізарнае стратэгічнае значэньне, бо 1) замыкае Адрыятыцкае мора перад уваходам туды англійскіх і францускіх караблёў, 2) стварае італьянскую базу на Балканах і бярэ ў клешчы Югаславію, 3) гразіць Грэцыі, Турцыі і ёсьць выходным пунктам для прарыву на ўсход, у кірунку Чорнага мора і Багдаду. Гэтакае значэньне мае заняцьце Альбаніі. Апроч гэтага Італія ўкрапляе астравы Додэканэзу (што каля Малой Азіі) а над усё Лібію, у паўночнай Афрыцы, дзе сканцэнтравала вялікую колькасьць войска і робіць бязупынныя манэўры. Лібійская армія можа быць скіравана як процію Эгіпту, так процію Тунісу. Гэта ёсьць галоўныя пазыцыі дынамічнага блёку, а цяпер прыгледзімся, якія мае пазыцыі кансэрватыўны блёк.

Перш за ўсё Гібралтар, магутную, высячаную ў скале англ. крэпасьць, паложаную ў паўдзённай часьці Гішпаніі; потым востраў Мальту, ляжачую блізка Пантэлярыі, маючую ваенны порт, лётнішчы і наагул заспасобленую ва ўсе ваенныя прылады; потым востраў Кіпр з лятунскімі базамі; потым Суэз, а ўрэшце Эгіпет, які супрацоўнічае з Тунісам і Алжырам і бярэ ў клешчы Лібію. Гэта ёсьць пазыцыі кансэрватыўнага блёку. Але найбольшая сіла на Міжземным моры — гэта злучаныя англійская і француская флёты, якія ўдвая мацнейшыя за італьянскую. Слабасьцяй гэтых флётаў ёсьць тое, што яны мусяць быць падзелены: адна часьць знаходзіцца ў заходняй часьці Міжземнага мора, а другая ў усходняй. Але і тады яны могуць устаяць перад злучанай італьянскай флётай. Мусіць дзеля гэтага дня 18.IV. **выяжджае на Міжземнае мора нямецкая эскадра** ў сіле 40 адзінак, у гэтым ліку чатыры панцырныя караблі. Пастаноўлены выезд нямецкай флёты зрабіў на ўсіх вялікае ўражаньне. Усе разумеюць, што гэта помач для Італіі. А гэта мае сваю вымову. Вочы ўсяго сьвету цяпер зьвернены на Міжземнае мора, адкуль можа пачацца сусьветная бура. Ходзяць чуткі, што ген. Франко мае заатакаваць Гібралтар.

## ЗАГАРОДЖАНАЯ ДАРОГА НА ЎСХОД.

Англійская дыплямацыя ў першай палавіне красавіка можа пахваліцца вялікімі здабычамі. Перш-на-перш трэба адзначыць здабыцьцё для англ. плянаў Польшчы, якая ня толькі атрымала загварантаваньне сваіх граніц, але і зрабіла гэтае самае адносна Англіі. Разыйшліся чуткі, што Польшч атрымае пазыку ў суме 500 мільёнаў зл. на ўваружэньне. За гэтыя грошы мае купіць у Саветаў патрэбнай сыравіны, а Саветы ў Англіі патрэбных машынаў — такім парадкам пазыка ізноў вярнуласяб у Англію.

Далейшым здабыткам для Англіі ёсьць далучэньне да дэмакратычнага блёку Румыніі. Яшчэ нядаўна прэса падавала вестку аб падпісаньні паміж Румыніяй і Нямеччынай гандлёвага дагавору, паводле якога румынская нафта і рум. хлеб мелі ехаць у Нямеччыну. Цяпер ніхто ня верыць у рэалізацыю гэтага дагавору. Наадварот, Румынія будзе адсылаць сваю сыравіну ў Англію, Францыю і Польшч. Да дэмакратычнага блёку далучылася такжа Грэцыя, якая таксама атрымала загварантаваньне сваей незалежнасьці; у саюзе з Англіяй ёсьць і Турцыя — так што трэба прызнаць, што перад дынамічным блёкам стварыўся бар'ер, які загарадзіў яму дарогу на ўсход. Ці дынамічны блёк будзе ламаць гэты бар'ер — згадаць трудна. Магчыма, што занятая Альбанія будзе базай, з каторай пачнецца наступленьне на ўсход.

На ўсходзе вялікай загадкай ёсьць становішча музулманаў агулам, а арабаў у асобнасьці. Здаецца, што музулмане падзеляцца, часьць будзе паддзержываць дэмакратычны блёк, а часьць (арабы)— фашыстоўскі. Каб прыцягнуць на свой бок арабаў, Англія абяцалася не памагаць жыдом у Палестыне.

Вялікую ўвагу зварочваюць цяпер на сябе Саветы і Югаславія. Гэтыя абедзьве краіны дэмакратычны блёк хоча прыцягнуць на свой бок. Але абедзьве яны маюць свае засьцярогі. Саветы ня хочуць лезьці ў вайну, баючыся, каб на іх не зваліўся першы ўдар дынамічнага блёку. Яны хочуць аставіць свае сілы на канец і кінуць іх у бой тады, калі Нямеччына ўжо выб'ецца з сіл. Каб мець разьвязаныя рукі на ўсходзе, Саветы дагаварыліся з Японіяй у справе лоўлі рыбы каля Сібірскіх берагоў, прыгэтым як Саветы, так і Японія пайшлі на ўзаемныя ўступкі. Усё гэта сьведчыць, што Саветы задзіраюцца ня хочуць і будуць чакаць зручнае часіны, каб выступіць з клічам сусьветнае рэвалюцыі.

А Югаславія апынулася ў вельмі трудным палажэньні. Акружаная з усіх бакоў дынамічным блёкам (Нямеччына, Італія, Вугрыя, ўзятая італьянцамі Альбанія і Баўгарыя) яна ня мае сіл, каб праціўставіцца восі Рым-Бэрлін. Урэшце ёй гразіць падзел, як Чэхаславачыне. На Харвацыю мае ахвоту Італія, на Славонію — Нямеччына, на Банат — Вугрыя, а на Македонію — Баўгарыя. Пры гэтакіх суседзях палітыка Югаславіі мусіць быць вельмі асьцярожнай. Пасьля заняцьця Альбаніі Італія запрапанавала Югаславіі паўночную часьць Альбаніі, але Югаславія адказалася.

Паход на Альбанію быў праектаваны быццам адначасна з падзелам Чэхаславаччыны, але тады Італія збаялася сільнага крыку і „альбанскую апэрацыю" адлажыла на потым.

Значыць Югаславія ў проціўфашыстоўскі блёк ня ўвойдзе. Загараджваць дарогу на ўсход дынамічнай восі ня будзе. А што будзе з тымі, якія загарадзілі? Ці дынамічная вось пагодзіцца з такім палажэньнем? Паводле заяваў прадстаўнікоў гэтай восі, вось не дапусьціць да акружэньня яе, а калі б акружэньне настала, акружаючы бар'ер будзе зламаны. Але пытаньне: Дзе і ў якім кірунку? Ці спроба зламаньня бар'еру ня выкліча сусьветнай вайны? Вось пытаньні, на каторыя цяпер адказаць трудна.

## АБ ПОЛЬСКА-НЯМЕЦКІХ АДНОСІНАХ.

Пішучы ў папярэднім нумары „Б. Фр." аб трывожных днях, якія перажывала Польшч у другой палавіне сакавіка, мы адзначылі, што па адрасу Польшчы Нямеччына высунула нейкія жаданьні, але якія — тады яшчэ ня было ведама, бо прэса аб гэтых жаданьнях нічога ня пісала. Хадзілі толькі розныя фантастычныя весьці, якія праверыць трудна было. Урэшце дня 13. IV. „Кур. Віл." адкрыў заслону і ў перадавым артыкуле „Czego od nas żądali Niemcy" заявіў, што Нямеччына дамагалася Гданска і правядзеньня аўтастрады праз карыдор у Усх. Прусію. Рыжскае „Сегодня" (6. IV) падавала яшчэ трэцяе жаданьне: справу меншасьцяў, але „Кур. Віл." аб гэтым жаданьні не ўспамінае. Галоўны орган гітлероўцаў „Völkischer Beobachter" называе гэтыя жаданьні „скромнымі і памяркоўнымі" — і шкадуе, што Польшч не скарыстала з аказіі, каб аканчальна ўрэгуляваць свае адносіны з Нямеччынай. А „Deutscher Dienst" піша, што ня толькі ў Польшчы, але і ў Англіі даклад-на ведама, што Нямеччына ніколі ня мела намеру атакавацьПольшчы,або пагражаць яе сувэрэннасьці ці тэрыторыяльнай цэласьці. „Польшч аднак дзіўным спосабам адняслася да нямецкай спробы ўстабілізаваць польска-нямецкія адносіны: замест таго, каб дзяржацца палітычнай лініі марш. Пілсудскага і імкнуцца да паразумленьня з Нямеччынай, Польшч аб'явіла мабілізацыю—і то проціў Нямеччыны. Цяпер выглядае, што Польшч цалком уваходзіць у англійскую ігру".

Далей „Кур. Віл." на падставе нямецкай прэсы цьвердзіць, што тактыка Нямеччыны мае на мэце вычарпаньне нэрваў і фінансаў праціўнікаў. „Мы ня маем патрэбы наладжваць мабілізацыі — кажуць немцы. Няхай гэта робяць іншыя. Гэта будзе ім так дорага каштаваць, што за некалькі месяцаў Англія адкажацца ад фінансаваньня гэтых выдаткаў". Немцы будуць тасаваць спосабы, як проціў Чэхаславаччыны. Паводле нямецкай прэсы цяпер пачынаецца змаганьне з Польшчай і Англіяй — і гэтае змаганьне будзе праводжана „такім самым мірным спосабам, як і іншыя змаганьні ў апошніх часох, каторыя скончыліся прызнаньнем справядлівых жаданьняў Нямеччыны".

На ўсё гэта „Кур. Віл." адказвае, што на гэтакія нямецкія жаданьні, як уступленьне Гданска, або правядзеньне экстэрыторыяльнай аўтастрады, Польшч ня згодзіцца ніколі.

Дня 14.IV. польская прэса прынясла весткі аб новых жаданьнях Нямеччыны, прыгэтым да папярэдніх жаданьняў быццам прыбыло яшчэ жаданьне ўступкі Нямеччыне некаторых пагранічных акругоў Горнага Шлёнска і іншых. На гэтае польская прэса адказвае, што ўсё гэта байкі. Ніякіх новых жаданьняў і ніякіх перагавораў з Нямеччынай ня было.

---

„Чырвоная Полаччына" ў Полацку, а пасьля, ад 1934 г. у Менску, дзе прабываў да апошніх дзён свайго жыцьця.

Апрача дробных вершаў, паэм, навэль і апавяданьняў, друкаваных у „Чырвонай Полаччыне" і іншых часапісах, напісаў Адв. С. вялікшыя творы: „Насустрач будучыні" (аповесьць), „Цагліна казэмата". „Русальчыны сьцежкі", „Тэорыя Каленбрун" (аповесьць), „Пажар павуціньня" (трылёгія, асталася ў рукапісе), „Пункт апоры", „Будучыня" (раман), „Сержант Дроб", „Дачка эскадрона" і „Пагібель ваўка" (п'еса). — Ужо з гэтага пералічэньня твораў відаць, што сьмерць забрала Беларусам нязвычайна плоднага пісьменьніка. „Шлях М.".

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski.

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.